# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» №8-9 верасень-кастрычнік 2015 года




# Сам сабе Ярмошына

**Напярэдадні датэрміновага галасавання пад час прэзідэнцкай выбарчай кампаніі Рух «За Свабоду» прапанаваў тым, хто ёй цікавіцца, згуляць у «Палітычны таталізатар». У якасці прыза быў выстаўлены смартфон Samsung Galaxy Grand Prime.**




Трэба было паспрабаваць адгадаць адсоткі галасоў для чатырох кандыдатаў у прэзідэнты, так званага кандыдата «Супраць усіх» і статыстыку сапсаваных бюлетэняў для галасавання.

Пераможца быў вызначаны пасля афіцыйнага агалошвання вынікаў выбараў. Ім стаў той удзельнік «Палітычнага таталізатара», хто даў максімальна дакладны прагноз вынікаў выбараў, указаўшы пры рэгістрацыі сапраўдны адрас электроннай пошты і падзяліўшыся сваім прагнозам у адной з сацыяльных сетак. Дакладнасць вызначалася паводле сумы розніц паміж афіцыйнымі вынікамі і лічбамі ў прагнозе ўдзельніка таталізатара. Было адно абмежаванне - прагноз у «Палітычным таталізатары» не маглі рабіць прадстаўнікі Цэнтрвыбаркаму і члены іх сем'яў.

У выніку прагноз пераможцы аказаўся вельмі блізкім да лічбаў, якія агучыў Цэнтрвыбаркам Беларусі.

**працяг на стар. 2-3**

# Вынікі назірання-2015

**Актывісты Руху «За Свабоду», якія не вылучаў свайго і не падтрымаў ніякіх іншых кандыдатаў пад час прамінулай выбарчай прэзідэнцкай кампаніі, узялі актыўны ўдзел у назіранні за галасаваннем. І звыкла сутыкнуліся з перашкодамі з боку выбарчых камісій і міліцыі.**

Гэтак жа традыцыйна рухаўцы выкрылі шматлікія парушэнні і фальсіфікацыі, якія не дазваляюць назваць выбары дэмакратычнымі.

Назіральнікаў ад Руху пазбаўлялі акрэдытацыі, нават выносілі з участку галасавання на руках з дапамогай міліцыі, ужо пасля выбараў на некаторых актывістаў чынілі ціск.

Тым не менш, актывісты арганізацыі рабілі што маглі.

Прычым ім удалося зладзіць унікальныя анлайн-трансляцыю з выбарчага ўчастка і правесці важны эксперымент вы выяўленні маніпуляцый з яўкай выбаршчыкаў «кантрольнае галасаванне». Падрабязней пра гэта чытайце ў іншых матэрыялах гэтага выпуску бюлетэня Руху «За Свабоду».

Усяго, паводле дадзеных Цэнтрвыбаркаму, на прэзідэнцкіх выбарах былі акрэдытаваныя 43 572 беларускіх назіральнікаў, нязначную частку ад якіх (да 5%) складалі незалежныя назіральнікі.

**працяг на стар. 2-3**

# Вынікі назірання-2015 (працяг)

працяг ад стар. 1



Каардынатар кампаніі «Права выбару» каардынатар Руху «За Свабоду» па Магілёўскай вобласці Алесь Сілкоў

Менавіта яны сапраўды вялі падлік колькасці ўдзельнікаў галасавання і імкнуліся бачыць што насамрэч знаходзіцца ў бюлетэнях, якія падлічвалі выбарчыя камісіі.

Тым часам назіральнікі ад праўладных арганізацый часам выступалі ініцыятарамі пазбаўлення акрэдытацыі сваіх незалежных калег, бо тыя быццам бы замінаці працаваць на выбарчым участку. Так, напрыклад, нацыянальны каардынатар кампаніі «Права выбару» каардынатар Руху «За Свабоду» па Магілёўскай вобласці Алесь Сілкоў сведчыць, што было выдалена 35 назіральнікаў. «Было такое пачуццё, што яны імкнуцца схаваць склад злачынства, - кажа ён. - Выбары былі несвабоднымі, несправядлівымі, падлік галасоў быў не празрысты, агучаныя ЦВК вынікі - не вартыя даверу».

Кампанія «Права выбару» напісала амаль тысячу скаргаў, але выбарчыя камісіі не знайшлі парушэнняў.

На думку Алеся Сілкова, планка фальсіфікацыяў была зададзеная самім Аляксандрам Лукашэнкам, які напярэдадні галасавання сказаў, што будзе кепска, калі ў яго будзе менш галасоў, чымсьці на мінулых выбарах: «Цар - менш за 80% - такія падарункі не прымае. Але спадарыня Ярмошына падарыла 83%».

Апрача таго, калі ў 2010 годзе лаяльнасць паказалі сілавыя структуры, «вось бачыш, мы цябе выратавалі», то цяпер лаяльнасць выявілі мясцовыя ўлады – маўляў, «мы пакажам такі вынік».

Сілкоў, падсумоўваючы вынікі выбарчай кампаніі ў межах праекта ePramova назваў назіранне важнай справай па дэмакратызацыі грамадства: «Тыя людзі, якія ў якасці назіральнікаў сядзелі на ўчастках, якія аддалі 5 дзён свайго каштоўнага часу і нерваў, - гэта грамадзяне».

Тое, што ўлады будуць замінаць паўнавартаснаму назіранню, стала ясна, калі старшыня Цэнтрвыбаркаму Лідзія Ярмошына адказала на зварот Руху «За Свабоду» датычна правоў назіральнікаў. З адказу вынікала, што яны будуць абмежаваныя ва ўжыванні відэа- і аўдызапісваючага абсталявання, а карыстацца імі будзе можна толькі з дазволу выбарчых камісій.

Хаця, па словах першага намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча, «аптычныя і відэапрыстасаванні прыдаліся б назіральнікам, бо часта іх саджаюць за стол, размешчаны вельмі далёка ад уласна працэсу галасавання і падліку галасоў». «У такіх умовах няўзброеным вокам мала што можна пабачыць», - пракаментаваў ён зварот у Цэнтрвыбаркам.

Аўдыё- і відэатэхніка, па яго словах, «дапамаглі б фіксаваць розныя спрэчныя моманты, у тым ліку звязаныя з выдаленнем назіральнікаў з выбарчага ўчастка нібыта за тое, што яны замінаюць працы выбарчых камісій».

З выбарчых участкаў у выніку выдалілі рухаўцаў Леаніда Гаравога, Пятра Маркелава, а Арцём Лява, які ўпарта аднаўляўся як назіральнік, наогул паставіў рэкорд – тры «чырвоныя карткі»!!!



**Каардынатар Руху «За Свабоду» па Мінску Юрась Меляшкевіч** пад час падліку галасоў падышоў для назірання да стала, аднак на яго вы-



клікалі міліцыю. Сілавікі ў літаральным сэнсе вынеслі яго з выбарчага ўчастку і не пускалі назад да завяршэння падліку.

«Супрацоўнікі камісіі на ўчастку №65 Савецкага раёну Мінска арганізавалі падлік бюлетэняў такім чынам, каб назіральнікі не маглі бачыць бюлетэні», - распавёў Юрась Меляшкевіч.

Па ягоных словах, ён захацеў бачыць падлік, таму падышоў бліжэй да сталоў, але каб пры гэтым не замінаць камісіі. У такім праве яму было адмоўлена.

«Старшыня камісіі патэлефанавала ў ЦВК, спыніла падлік галасоў. Пры гэтым праўладныя назіральнікі пачалі мне замінаць, адштурхоўваць ад стала», - дадаў Меляшкевіч.

Праз паўгадзіны быў выкліканы нарад міліцыі, якому, адзначыў Меляшкевіч, быў «дадзены загад без прымянення сілы мяне ізаляваць». «Міліцыянты пачалі хапаць мяне на адзенне і цягнуць на выхад з участку, у нейкі момант я ўпаў, і з участку мяне выцягнулі і не давалі вярнуцца да канца падліку галасоў», - распавёў каардынатар Руху па Мінску.

Па словах Меляшкевіча, ён звярнуўся са скаргай на дзеянні камісіі. «Падліку галасоў на ўчастку не было, усе бюлетэні былі звaленыя ў адну кучу. Пры гэтым колькасць бюлетэняў для галасавання на даму была завышаная ў два разы, за асноўны дзень – больш чым на 350 бюлетэняў, скрыня для датэрміновага галасавання была ненадзейна апячатаная», - падкрэсліў Меляшкевіч.

«Мы не можам давяраць вынікам галасавання», - зрабіў ён выснову.

Падстаўныя «назіральнікі» ад улады актыўна замінали незалежнаму назіранню, кажа **сябра Рады Руху Сяргей Бахун**:



«Такія псеўданазіральнікі былі на многіх участках. Яны былі прызначаныя ў процівагу незалежным назіральнікам для таго, каб блакаваць нашы скаргі і заўвагі. Напрыклад, калі на нашым участку № 10 у Фрунзенскім раёне Мінска галасаванне скончылася, усе гэтыя «назіральнікі» па адным шаблоне напісалі заявы, што выбары прайшлі сумленна і парушэнняў не было выяўлена. Калі мы, незалежныя назіральнікі, напісалі свае скаргі на парушэнні, нам усім прыйшлі прыкладна аднолькавыя адказы: на вашым участку было 8 назіральнікаў ад «Белай Русі», ад БРСМ, ад Беларускай патрыятычнай партыі, і на іх думку ўсё прайшло сумленна, таму вашу скаргу мы разглядаем як паклёп».

«Гэтыя падстаўныя назіральнікі заходзілі ў асобны пакой разам з членамі камісіі, пілі там каву, некаторыя, напэўна, пілі і іншыя напоі - таму што выходзілі адтуль «вясёленькімі». Тактыка праўладных «назіральнікаў» была скіраваная на тое, каб паказаць, што нашы заявы аб парушэннях нібыта беспадстаўныя», - распавёў Бахун.

Сябра Рады Руху «За Свабоду» Андрэй Юркоў заявіў пра зрыў паўнавартаснага назірання на Дрыбінскім выбарчым участку №2 у нядзелю 11 кастрычніка - у асноўны дзень галасавання прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

Рэч у тым, што ён планаваў назіраць разам з іншым сябрам Руху Уладзімірам Пратасенкам, але той напярэдадні адмовіўся ад назірання. Па словах Юркова, «з нагоды адміністрацыйнага ціску на яго самога і сваякоў».

У выніку выбары ў Дрыбінскім раёне прайшлі, на думку Андрэя Юркова, без кантролю грамадства, гарантаванага Канстытуцыяй.

Трох актывістаў, якія назіралі ад Руху «За Свабоду» ў Мінскай вобласці і адзначыліся вялікай колькасцю скаргаў, пасля выбараў чамусьці расшукала і апытала міліцыя, распавёў




**сябра Рады Руху «За Свабоду» Віталь Амялькович.** Гэта спроба папалохаць, папужаць актыўных назіральнікаў, спроба не фізічнага, а маральнага ўціску. Бо такія скаргі - не ў кампетэнцыі міліцыі.

Такім чынам, пасля выбараў бязмежжа працягнулася…

# З чыстага аркуша

**Сябра Рады Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк арганізаваў у Брэсце на шэрагу выбарчых участкаў эксперымент дзеля выкрыцця фальсіфікацыяў, які быў названы «кантрольным галасаваннем». У выніку ён падаў заяву пракурору Брэста аб распачынанні крымінальнай справы "па факце падробкі дакументаў па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і заведама няправільнага падліку галасоў на выбарчым участку №60 Маскоўскага раёна г. Брэста».**

Як праходзіла «кантрольнае галасаванне» і што адказалі ў пракуратуры?

9 кастрычніка Турчаняк прыйшоў на гэты выбарчы ўчастак, дзе яму ўручылі бюлетэнь для галасавання і прапанавалі прайсці ў кабіну для галасавання, што ён і зрабіў: «Аднак вырашыў не галасаваць датэрмінова і не апусціў бюлетэнь у скрыню для датэрміновага галасавання. Замест бюлетэня я кінуў у скрыню для галасавання аркуш паперы, пасля чаго выйшаў з тэрыторыі ўчастка, а бюлетэнь панес з сабой».



«Мне стала цікава, як адаб'ецца ў справаздачнасці выбарчай камісіі недахоп майго бюлетэня пры падліку галасоў 11 кастрычніка. Таму я вырашыў зарэгістравацца на гэтым выбарчым участку ў якасці назіральніка, каб убачыць усё на свае вочы», - распавядае Дзяніс Турчаняк.

Акрамя таго, яму стала вядома, што гэтак паступілі і некалькі іншых выбаршчыкаў: яны не сталі галасаваць датэрмінова, а «пакінулі бюлетэні сабе ў якасці сувеніра - на памяць аб выбарах прэзідэнта 2015 году».

Гэтыя бюлетэні яны перадалі актывісту Руху «За Свабоду»: «Такім чынам у мяне аказалася чатыры бюлетэні, якія былі выдадзеныя ў перыяд датэрміновага галасавання на выбарчым участку №60 Маскоўскага раёна Брэста. На ўсіх гэтых бюлетэнях маюцца подпісы сябраў выбарчай камісіі».

11 кастрычніка, будучы назіральнікам, Турчаняк звярнуў увагу на скрыню датэрміновага галасавання і заўважыў, што «абрысы і форма пластыліну, на якім маецца адбітак пячаткі, а таксама і месцазнаходжанне шнура адносна пластыліну адрозніваюцца ад таго, якімі яны былі ў дзень майго галасавання». Ён паведаміў аб гэтым старшыні камісіі Галіне Кивель, зрабіўшы выснову, што «скрыня датэрміновага галасавання незаконна ўскрывалася падчас датэрміновага галасавання і была паўторна апячатаная».

Падчас падліку галасоў Турчаняк даведаўся ад старшыні камісіі, што на гэтым выбарчым участку ў датэрміновым галасаванні ўзялі ўдзел 365 чалавек, якім было выдадзена 365 бюлетэняў

«Паколькі 4 бюлетэні знаходзяцца ў мяне, то пры падліку галасоў павінна была выявіцца іх нястача. У скрыні не можа знаходзіцца больш за 361 бюлетэнь. Але такая нястача не была выяўлена членамі камісіі, якія ў ходзе падліку ўстанавілі, што ў скрыні для датэрміновага галасавання знаходзіцца 364 бюлетэні, што на 3 бюлетэні больш за тую колькасць, якая можа там знаходзіцца», - напісаў сябра Руху «За Свабоду» брэсцка-





му пракурору.

Нарэшце, «у скрыні датэрміновага галасавання не аказалася аркушоў паперы, якія былі кінутыя замест бюлетэняў мной і астатнімі грамадзянамі, што з'яўляецца сведчаннем несанкцыянаванага доступу да змесціва скрыні». Ён робіць выснову, што «аркушы паперы былі канфіскаваныя са скрыні неўстаноўленай асобай і замененыя на фальшывыя бюлетэні».



Вх. № 28 от 13.10.2015

Турченку Д.В.
ул.
г.Брест

Уважаемый Денис Вячеславович!

Московская районная в г.Бресте комиссия по выборам Президента Республики Беларусь по существу Вашего обращения от 12.10.2015 в прокуратуру города Бреста сообщает следующее.

Выборы Президента Республики Беларусь на избирательном участке № 60 по выборам Президента Республики Беларусь проводились в соответствии с нормами Избирательного кодекса Республики Беларусь.

В случае несогласия с ответом Вы вправе обжаловать его в Брестскую областную территориальную комиссию по выборам Президента Республики Беларусь (г.Брест, ул.Ленина, 13, каб. 207).

Председатель Московской
Районной в г.Бресте комиссии
по выборам Президента
Республики Беларусь Г.А.Янголенко

Дзяніс Турчаняк прыклаў да заявы на імя пракурора Брэста копіі бюлетэняў, не кінутых у скрыню, папрасіў правесці праверку па выкладзеных фактах і распачаць крымінальную справу па факце падробкі выбарчых бюлетэняў і заведама няправільнага падліку галасоў

Такія самыя парушэнні зафіксаваў яшчэ адзін назіральнік ад Руху «За Свабоду» Сяргей Вакуленка. Паводле яго слоў, ён таксама не кінуў у скрыню свой бюлетэнь на ўчастку №53 Маскоўскага раёна Брэста, замяніўшы яго аркушом паперы. Акрамя таго, у яго маецца яшчэ адзін бюлетэнь выбаршчыка з гэтага ўчастка. Пры гэтым нястача бюлетэняў або наяўнасць у скрыні паперы пры падліку галасоў выяўленыя не былі. Актывіст таксама падаў заяву ў пракуратуру з патрабаваннем правесці праверку і пачаць расследаванне па факце падробкі выбарчых бюлетэняў і заведама няправільнага падліку галасоў.

Дзяніс Турчаняк атрымаў адказ на свой зварот у пракуратуру з... раённай выбарчай камісіі. Са зместу паперы вынікае, што справай ніхто займацца не плануе.

«Маскоўская раённая камісія ў г. Брэсце па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сутнасці вашага звароту ад 12 кастрычніка ў пракуратуру г. Брэста паведамляе наступнае. Выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарчым участку №60 праводзіліся ў адпаведнасці з нормамі Выбарчага кодэксу», - сказана ў адказе за подпісам старшыні выбаркама.

У выпадку нязгоды з адказам у выбаркаме прапануюць абскарджваць яго ў Брэсцкай абласной тэрытарыяльнай камісіі.

«Пракуратура парушыла Крымінальна-працэсуальны кодэкс і накіравала нашыя заявы пра ўзбуджэнне крымінальнай справе ў орган, які не паўнамоцны прымаць рашэнне пра ўзбуджэнне крымінальнай справы», - пракаментаваў сітуацыю Дзяніс Турчаняк.

Па ягоных словах, актывісты плануюць абскарджваць гэтыя дзеянні у абласной пракуратуры, а калі не падзейнічае, то ў Генеральнай пракуратуры Беларусі.

«У камісіі досыць дзіўная трактоўка нормаў Выбарчага кодэкса, бо для іх нормай паводзінаў сталі фальсіфікацыі. Справа павінна быць расследаваная, і мы будзем дамагацца гэтага», - адзначыў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

Цікава, што «кантрольнае галасаванне» праводзілася таксама на выбарчым участку №1 Ленінскага раёну Брэста. Там выбарчая камісія знайшла 4 аркушы белай паперы. «Мы размаўлялі з назіральнікамі ад АБСЕ, і яны сказалі, што ведаюць, чаму так адбылося: незалежны назіральнік сфатаграфаваў пячатку. А той участак – узорна-паказальны, скрыня такая, што адкрыць яе можна толькі зверху, пашкодзіўшы пячатку», - адзначыў актывіст Руху «За Свабоду».

Па ягонаю думку, камісія проста вырашыла не рызыкаваць, тым болей на ўчастку сядзелі назіральнікі ад АБСЕ.

Дзяніс Турчаняк перакананы, што «кантрольнае галасаванне» варта пашырыць на парламенцкіх выбарах, якія пройдуць у 2016 годзе. «Калі не будзе карэнных зменаў у паводзінах выбарчых камісіях, - адзначыў Дзяніс Турчаняк. - такая праверка застаецца адзіным варыянтам кантролю якасці іх працы».

# Пётр Маркелаў: “Выбары” – апагей сістэмы

**Падчас прамінулай выбарчай кампаніі СМІ неаднаразова пісалі пра назіральнікаў з ініцыятывы «87%» у межах кампаніі назірання «Права выбару». Хлопцы нарабілі шуму на выбарчым участку №10 Першамайскага раёна Мінска, паспрабаваўшы весці нават анлайн-трансляцыю.**

У выніку выбарчая камісія ўжо на другі дзень датэрміновага галасавання пазбавіла ініцыятара такога татальнага скразнога назірання, сябра Руху «За Свабоду» Пятра Маркелава акрэдытацыі.

«Яны абгрунтавалі рашэнне не паводле заканадаўства, а па нейкіх паняццях. Не баяцца казаць пра гэта на камеру. Ім пофіг, яны адчуваюць сябе непакаральнымі»», - кажа Пётр Маркелаў. Ён адзначыў, што адзін з сябраў гарадской выбарчай камісіі, дзе абскарджвалася пазбаўленне акрэдытацыі, заявіў яму, што старшыня камісіі можа забараніць дыхаць назіральніку.

Маркелаў, адзін з лідараў маладзёжнага крыла Руху «за Свабоду» у інтэрв'ю радыё «Свабода» распавёў пра тое, чаму 20-гадовыя актыўна ўдзельнічаюць у палітычным жыцці.

**— Адкуль вы родам? У якім асяродку гадаваліся?**

— Я нарадзіўся ў Мінску ў 1994-м, але першыя пяць год пражыў у Маладзечне. Мне пашчасціла — мае бацькі дактары, таму са здароўем ніколі праблемаў асаблівых не меў, а ў паліклініку наведваўся раз на колькі год. Бабулі ў мяне — настаўніцы фізікі і хіміі, таму і з дакладнымі навукамі было добра.

Вучыўся ў беларускамоўнай




школе № 60 да пятага класа, потым — у гімназіі №23. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Ліцэі БДУ.

**— З чаго і калі вы зацікавіліся палітыкай?**

— Першае, што памятаю, — як у 2006 годзе (мне тады было 12) разам з аднакласнікамі хадзілі на сядзібу БНФ, якая тады яшчэ месцілася на праспекце Машэрава, побач з Акадэміяй МУС. Набіралі значкаў «За свабоду», рознага кшталту налепкі («Нам лгут», «Джынсавая рэвалюцыя», «Свабода», з Мілінкевічам). Потым хадзілі, ляпілі па ўсім горадзе.

Памятаю, наляпіў аднойчы налепку наўпрост на слуп ля ўваходу ў Акадэмію. Выбег міліцыянт, зацягнуў мяне ў будынак і кажа: «Паказвай, што ў сумцы». Я прымяніў вядомую фішку — дастаў загадзя пакладзены ў маленькі аддзел невялічкі стос налепак з «Мілікам». «Ды гэтым можна ўвесь Мінск абляпіць!» — дзівяцца міліцыянты. Адпусьцілі. А сумка — поўная тых налепак... І водар свежага друку, паперы і клею.

Потым яшчэ ежу перадаваў у намётавае мястэчка. На плошчу на Дзень Волі маці не пусціла.

**— Ці ўдзельнічалі актыўна ў палітычным жыцці да мясцовых выбараў?**

— Ляпіў налепкі і ў 2010-і. Быў на плошчы. Ну і пра Зянона крычаў направа і налева: «Толькі Зянон!». Вучыў, што адказваць трэба: «Толькі ён». Я, у прынцыпе, і зараз гэтым займаюся.

**— Калі вы далучыліся да нейкага палітычнага руху афіцыйна? Чым займаліся?**

— Далучыўся да Руху «За Свабоду» у 2013-і, пасля Школы Руху. Акурат тады і пачалася перадвыбарчая кампанія. Дарэчы, на тых выбарах я таксама назіраў і меў пазітыўны досвед. Мне дазволілі падыйсці да стала, дзе лічылі галасы, рабіць фота і здымаць відэа.

**— Чаму вырашылі балатавацца ў дэпутаты ў 2014-м?**

— Ідэя ўзнікла нечакана, падчас шпацыру з даверанай асобай па раёне. Першае — гэта прастора для творчасці. Студэнт-фізік, «валасацік», як мяне некаторыя звалі, які балатуецца ў дэпутаты ў Беларусі — абсурд, але нешта новае. Пасля ўжо, калі думалі над зместам

кампаніі, сфармулявалі мэты: мы ператвараем апалітычнасць людзей праз страх у цікавасць да палітыкі праз смех. Таксама прыцягваем увагу да несамастойнасці мясцовых Саветаў.

Ніхто, акрамя мяне з даверанай асобай, не верыў, што я атрымаю рэгістрацыю ў якасці кандыдата. «Яны рэгіструюць толькі тых, каго патрэбна», — казалі мне. У выніку Лябедзьку не зарэгістравалі, бо падаў дакументы з парушэннямі закона, яшчэ некага — бо не сабраў дастатковую колькасць сапраўдных подпісаў.

І такое адбываецца ўвесь час. Людзі адмаўляюцца нешта рабіць, аргумэнтуючы: «нас не зарэгіструюць», «нам не дазволяць», «толькі час і нэрвы змарнуем». Насамрэч трэба казаць «мне лянота».

А мы вырашылі паспрабаваць, і ў нас атрымалася. Не трэба загадзя казаць, што нічога не выйдзе. Трэба працаваць з гэтай сістэмай, не ленавацца. Нават у нашых умовах можна нешта зрабіць.

**— Вы сур’ёзна збіраліся стаць дэпутатам ці гэтая кампанія была больш жартам?**

— Канечне, гэта была жартоўная кампанія. Я да гэтага часу не ведаю, колькі адсоткаў атрымаў.

**— Як паставіліся да вашага намеру бацькі?**

— Пасмяяліся.

**— Ці нейк адрэагавалі на кандыдацтва ў дэпутаты ва універсітэце?**

— Так. Была размова з дэканам. Ён называў мяне клоўнам, казаў, што я — ганьба факультэта. Такога меркавання прытрымліваліся некаторыя студэнты. Але большасць іх і некаторыя выкладчыкі з гумарам ставіліся да ініцыятывы, разумелі жарты і не лічылі гэта ганьбай.

**— Вашае адлічэнне з універа было чаканым?**

— Шчыра кажучы, я не верыў, што мяне адлічаць, бо я дастаткова добра вучыўся, паступіў на кафедру тэарэтычнай фізікі. На зімовай сесіі ўзнік канфлікт з выкладчыкам радыёэлектронікі.

Мяне адлічылі з універсітэта за прагулы ўвесну 2015 году. Я сапраўды прапускаў шмат, з большага — няпрофільныя прадметы. Але навошта мне ўставаць зранку ды ехаць праседжваць парткі, калі я магу першы раз пабачыць выкладчыка на іспыце і здаць на адзнаку, якая будзе вышэй, чым у тых, хто адседзеў усе лекцыі? З майго пункту гледжання, наадварот, трэба выключаць тых, хто ходзіць на лекцыі, а потым на іспыце нічога не ведае.

Таму я б не зьвязваў маё выключэнне толькі з палітыкай. Гэта сістэма думак і сістэма каштоўнасцей. Там галоўнае — гэта не твае веды, фармальнае наведванне заняткаў. Гэта праблема нашай сістэмы адукацыі.

**— І чым займаецеся пасля адлічэння з універа?**

— Шукаю працу ў грамадска-палітычным сектары ці магчымасць працягнуць вучобу, падарожнічаю. За выбарамі вось назіраў. Жыву ў кайф.

**— Мала каго з моладзі сёння цікавіць палітыка. Для чаго яна вам?**

— Палітыка — інструмент прасоўвання сваіх інтарэсаў. Я хачу жыць у Беларусі і адчуваць сябе тут камфортна, гаспадаром сваёй зямлі. Большая частка моладзі звыклася з безадказнасцю, з тым, што за іх рашэнні прымае нехта іншы. Але адказнасць — гэта неад’емная частка свабоднага грамадства, такога, у якім я хачу жыць.

**— Ці вы лічыце, што сваёй актыўнай дзейнасцю можаце нешта змяніць у гэтай краіне?**

— Змяняць трэба ўсё: ад эканомікі, сістэмаў адукацыі і аховы здароўя, сацыяльнай ды ідэалагічнай палітык. Але пачынаць трэба са зменаў у галовах людзей, бо дзяржава — гэта адлюстраванне народу.







**— Кандыдацтва ў дэпутаты, досвед назіральніка, чым плануеце займацца далей?**

— У наступным годзе — выбары дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў. Сур’ёзную парламенцкую кампанію пакуль не пацягну, але хачу папрацаваць у выбарчым штабе кандыдата ад дэмакратычных сілаў. Намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца, напрыклад. Таксама мы з камандай маем планы пашырыць незалежнае назіранне, прыцягнуць новых людзей. «Выбары» — гэта апагей існуючай сістэмы, тут ёсць усё: беззаконне, паказуха, страх, падман і самападман. Дастаткова пабачыць гэтае шоў адзін раз, каб зразумець: гэта не мая сістэма, не мая дзяржава.

# «Дакладная запіска» для Еўропы



**У другой палове кастрычніка ў Мадрыдзе адбыўся кангрэс Еўрапейскай народнай партыі, які паказаў, што Беларусь усё яшчэ застаецца цікавай для ЕС. «Я прадставіў на ім Рух «За Свабоду» і своеасаблівую «дакладную запіску Еўропе» пра Беларусь», - кажа старшыня арганізацыі Аляксандр Мілінкевіч. Публікуем тэкст ягонага выступу.**

Старой Еўропе варта адказаць на пытанне: ці Беларусь — гэта Еўропа?

Геаграфічна ўсе ведаюць, што так. Але ўсё яшчэ ідзе дыскусія — ментальна і культурна? Можна запытаць любога дыпламата, хто працаваў у Мінску, і адказ будзе адназначны: па ўзроўні развіцця эканомікі, інфраструктуры, асабістай культуры жыхароў, узроўні адукацыі Беларусь належыць да Еўропы.

І наша мінулае сведчыць аб гэтым: беларусы маюць тысячагадовую гісторыю стварэння сваёй дзяржавы, другімі ў Еўропе пераклалі на сваю мову Біблію, прынялі Канстытуцыю у XVI ст., адстойвалі незалежнасць і годнасць у паўстаннях і войнах, у якіх гублялі палову, трэцюю, чацвёртую частку сваіх лепшых сыноў і дачок.

З часам нашыя суседзі ўжо вярнуліся ў Еўропу або праз пакуты і ахвяры імкнуцца ў еўрапейскую сям'ю, а Беларусь застыла ў нявызначанасці свайго лёсу.

Галоўная прычына ў тым, што ў Савецкім Саюзе мы былі адной з найбольш развітых рэспублік, па ўзроўні блізкай да Польшчы, але адначасова самай дэнацыяналізаванай, саветызаванай часткай Саюзу, пасля распаду якога беларусам не хапіла пачуцця гістарычнай і нацыянальнай самасвядомасці, каб пайсці правільным шляхам.

Беларусы спалохаліся дэмакратыі, самастойнай будучыні і абралі патэрналізм і моцную руку.

**Што мусіць у такой сітуацыі рабіць Еўропа?**

Першае правіла — цярпенне. Размова ідзе не аб перамозе дэмакратыі на чарговых выбарах, якіх у Беларусі няма, бо галасы на іх лічыць выключна ўлада. Размова ідзе пра змену постсавецкага менталітэту і нацыянальнае адраджэнне — усё гэта патрабуе змены пакаленняў.

Ні ў якім выпадку Еўропа не павінна казаць: у вас няма дэмакратыі — да пабачэння, як будзе — прыходзьце. Патрэбная доўгатэрміновая стратэгія працы з Беларуссю, а не часовая тактыка.

**Што лепш для зменаў у Беларусі — дыялог ці санкцыі?**

Санкцыі — гэта не інструмент, гэта маральная пазіцыя. Яна важная як ацэнка падзеяў у Беларусі. Але санкцыі памяншаюць праеўрапейскія настроі і ўплыў дэмакратаў на грамадства, спрыяюць анексіі з боку Масквы.

Дыялог — таксама не гарантыя поспеху, гэта шанец. Ён вызваляе палітвязняў, змяншае рэпрэсіі, адкрывае акно магчымасцяў для працы грамадзянскай супольнасці, умацоўвае незалежнасць.

Дыялог не мусіць быць для дыялогу, бо ў такім выпадку ён будзе безвыніковым. Афіцыйны Мінск можа выкарыстаць яго для атрымання перадышкі і працягне дзейнічаць па старым сцэнары. Еўропа ж не мае права забыцца пра правы чалавека ў Беларусі.

Якая мэта дыялогу? Перш за ўсё, «болей Еўропы ў Беларусі», «трэба захаваць у беларусаў «смак Еўропы» і еўрааптымізм».

Не можа быць так, што беларусы атрымліваюць больш за ўсіх у свеце шэнгенскіх візаў і адначасова плацяць за гэта самую высокую цану ў свеце.

Еўропе важна дзейнічаць двума шляхамі: максімальная адкрытасць для грамадства і пакрокавае набліжэнне з афіцыйным Мінскам — крок за крокам.

Важна інвеставаць у рэформы у Беларусі, у малы бізнес, правы чалавека, грамадзянскую супольнасць, еўрапейскую адукацыю дзеля падрыхтоўкі беларускіх рэфарматараў, у культуру — для фармавання нацыянальнай ідэнтычнасці, а перш за ўсё ў моладзь: яна наша надзея, а надзея моладзі — Еўропа.



# Базы і большасць

**«Дамова аб размяшчэнні на тэрыторыі Беларусі расійскай ваеннай базы можа быць падпісаная ў бліжэйшым часе. Гэта згубны крок, які можа прывесці да страты незалежнасці Беларусі. Гэта здрада нашым нацыянальным інтарэсам, здрада народу і краіне».**

Подпіс аднаго з кіраўнікоў Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча стаіць пад гэтай заявай дэмакратычных сілаў да грамадзян Беларусі. Мэта — «не дапусціць уцягвання нашай краіны ў ваеннае супрацьстаянне, мы павінны прадэманстраваць нашу нацыянальную кансалідацыю і беларускі патрыятызм».

4 кастрычніка на плошчы Свабоды ў Мінску прайшоў сход супраць размяшчэння на нашай зямлі новай расійскай ваеннай базы.

Чаму Губарэвіч разам з іншымі рухаўцамі прыйшоў на гэтую акцыю?

Найперш: размяшчэнне на тэрыторыі Беларусі іншаземнай ваеннай базы супярэчыць 18-му артыкулу Канстытуцыі Беларусі, паводле якога Беларусь імкнецца да нейтралітэту. Натуральна, паводле літары закону з Беларусі павінны быць выведзеныя і існуючыя ваенныя базы ўсходняй краіны-суседкі.

«Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб’ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?» Гэтак сфармулявана злабадзённае чацвёртае пытанне з парадку дня «Народнага рэферэндуму».





У падтрымку яго правядзення падпісалася ўжо 120 тысяч чалавек. Яны як мінімум сумняюцца ў мэтазгоднасці таго, каб у нас стаялі чужыя ваенныя базы.

Па-першае, гэта ператварае Беларусь у мішэнь у выпадку мілітарных канфліктаў. Па-другое, чужынскія войскі могуць быць скарыстаныя супраць існавання незалежнай Беларусі. Тым болей калі свае базы на нашай зямлі мае краіна-агрэсар, якая вядзе ваенныя дзеянні ад Украіны да Сірыі.




Сацыялагічныя апытанні паказваюць, што за мірную Беларусь выступаюць мільёны беларусаў. Паводле чэрвеньскага даследавання НІСЭПД, толькі 22,4% грамадзян Беларусі станоўча паставіліся да намераў Масквы размясціць у нас сваю авіябазу.

«Калі Лукашэнка думае, што расейская ваенная база абароніць яго ад дэмакратыі, ад незалежных выбараў, гэта не так», - адзначыў на мітынгу супраць расійскіх ваенных базаў у Беларусі першы намеснік старшыні Руху.

Гэта тая пагроза, лічыць ён, якая рана ці позна пусціць свае метастазы ў выглядзе "зялёных чалавечкаў". "Гэтыя людзі, як гэта было ў Крыме, прыйдуць і выкінуць сённяшнія ўлады з іх выканкамаў, паставяць замест чырвона-зялёнага сцяга свой расійскі трыкалор", - падкрэсліў Губарэвіч.

"Я спадзяюся, што калі пагроза стане рэальнай, калі пасля выбараў Лукашэнка паставіць свой подпіс, на вуліцы Беларусі дзеля мірнага працэсу выйдуць дзясяткі і сотні тысячаў людзей. Жыве Беларусь!" - заключыў Губарэвіч.

# Два тэрміны - і хопіць!



**Пакуль некаторыя апазіцыйныя сілы бралі ўдзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, Рух «За Свабоду», адказны за грамадскую частку «Народнага рэферэндуму» правёў у верасні і кастрычніку шэраг мерапрыемстваў па прасоўванні ягоных пытанняў.**

Напрыклад, у пяці гарадах былі арганізаваныя грамадскія слуханні, прысвечаныя праблеме абмежавання тэрмінаў прэзідэнцтва ў Беларусі. Нагадаем, адно з пытанняў у парадку дня «Народнага рэферэндуму» гучыць так: «Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?».

«Размовы з людзьмі паказваюць, што гэтае пытанне – ці не самае папулярнае ў «Народным рэферэндуме» з шасці. Магчыма, яно і ключавое дзеля пераменаў у нашай краіне. Ну і натуральна, што пытанне пра абмежаванне тэрмінаў прэзідэнцтва для адной асобы набывае асаблівую актуальнасць падчас адпаведнай выбарчай кампаніі, якая праходзіла апошнія месяцы», - кажа намеснік старшыні Руху «За Свабоду», палітолаг Алесь Лагвінец, які стаў адным з экспертаў падчас слуханняў. Ён распавядаў пра сусветную практыку абмежавання мандату на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе і прааналізаў, ці ўзор для Беларусі - еўрапейская мадэль парламентарызму.

Пра пачатак парламентарызму ў нашай краіне і адкат да аўтарытарнага прэзідэнтыялізму расказваў першы намеснік старшыні БСДП (Грамада), былы спікер Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб, пад старшынствам якога 15 сакавіка 1994 году была прынятая Канстытуцыя, што ўводзіла ў Беларусі пасаду прэзідэнта. Прэзідэнцтва адной асобы абмяжоўвалася двума пяцігадовымі тэрмінамі. Але ў 2004 годзе Аляксандр Лукашэнка правёў рэферэндум, у выніку якога былі знятыя абмежаванні па колькасці прэзідэнцкіх тэрмінаў. На выбарах-2015 Лукашэнка, які кіруе краінай ужо 21 год, балатаваўся зноў і застаўся пры ўладзе.

«Выбарчая кампанія для «Народнага рэферэндуму» - яшчэ адна магчымасць нагадаць пра важнасць пытанняў, якія мы ўздымаем. Відавочна, што ўлада не жадае прыслухоўвацца да грамадства, не чуе яго. Выбары праводзяцца з перадвырашаным вынікам», - адзначыў, адкрываючы ў Баранавічах чараду слуханняў, першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

«Канстытуцыя 1996 году – нелегітымная. Хаця мы па ёй нібы жывем, але яна нелегітымная», - сказаў Мечыслаў Грыб. Ён адзначыў, што у 2004 годзе на рэферэндуме было знятае абмежаванне на колькасць тэрмінаў прэзідэнцтва. «Адпавядае гэта Канстытуцыі? Не. Прызнаны гэты рэферэндум легітымным? Не», - падкрэсліў Мечыслаў Грыб.

«Як юрыст магу сказаць, што балатаванне ў кандыдаты ў прэзідэнты Аляксандра Рыгоравіча на выбарах-2015 незаконнае», - дадаў ён.

«Абмежаванне тэрмінаў двума для палітыкаў – гэта нармальны сучасны стандарт», - падкрэсліў намеснік старшыні Руху Алесь Лагвінец. - Тое, што ў нас на пасаду прэзідэнта можна балатавацца неабмежаваную колькасць разоў першым чынам – адмоўным - кідаецца ў вочы любому замежніку».



# Прывітанне Агінскаму

**Найлепшыя знаўцы біяграфіі нашага слыннага суайчынніка, палітыка-дыпламата і сусветна вядомага кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага атрымалі прызы ад Руху «За Свабоду» як пераможцы адмысловай віктарыны.**

Сёлета споўнілася 250 гадоў з дня народзінаў Агінскага. І з гэтай нагоды Рух «За Свабоду» правёў віктарыну, у якой узялі ўдзел 170 чалавек.

«Міхал Клеафас Агінскі пакінуў нам вялікую культурна-асветніцкую, палітычную і музычную спадчыну. Ён жыў у той час, калі нас царская Расія прымусова вырвала нас з сям'і еўрапейскіх народаў і далучыла да азіяцкай дэспатыі», - нагадаў аўтар пытанняў да віктарыны, гісторык, сябра Рады Руху «За Свабоду» Віктар Сырыца.

Па яго словах, «жыццё і лёс, а таксама культурную спадчыну Агінскага нам трэба асабліва добра ведаць сёння, калі мы імкнёмся вярнуцца ў еўрапейскую цывілізацыю, туды, дзе жылі нашыя продкі - ліцвіны».

Першае месца заняў Міхаіл Жарнасек, які атрымаў плэер, другое - Таццяна Крохіна. узнагароджаная сертыфікатам на экскурсіі па Беларусі ад «Куфэрка падарожжаў». Знаўцы, што падзялі 3-4 месцы, атрымалі флэш-карткі.

Прапануем вам адказаць на некалькі пытанняў віктарыны – трэба выбраць адзін слушны адказ з чатырох прапанаваных (адказы – унізе старонкі). Цалкам прайсці віктарыну і выпрабаваць свае веды вы можаце на сайце Aginski.рух.by.

***



У якім італьянскім горадзе памёр Міхал Клеафас Агінскі ў 1833 годзе, пражыўшы 10 гадоў у эміграцыі?
а) Рым
б) Мілан
в) Фларэнцыя
г) Венецыя

З кім з гэтых кампазітараў быў асабіста знаёмы Міхал Клеафас Агінскі:
а) Бетховен
б) Моцарт
в) Чайкоўскі
г) Рахманінаў



У якім беларускім горадзе музычнае вучылішча мае носіць імя Міхала Клеафаса Агінскага?
а) Мінск
б) Маладзечна
в) Вілейка
г) Слонім

Пасля задушэння паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі Міхал Агінскі пабудаваў сядзібу ў Залессі і заклаў там даволі вялікі парк. У парку ён загадаў усталяваць камень-валун з такім надпісам:
а) "Касінерам прысвячаецца"
б) "Ценям Касцюшкі"
в) "З музыкай наперад"
г) "Марш паўстанцаў"



На тэрыторыі якой сучаснай краіны нарадзіўся Міхал Клеафас Агінскі?
а) Літва
Б) Польшча
в) Беларусь
г) Украіна

У якім горадзе Міхал Клеафас Агінскі набыў сабе новую скрыпку, зробленую калісьці славутым італьянскім майстрам Страдывары? Праўда, музыка ў гэты час для Агінскага была толькі прыемным заняткам для душы.
а) Лондан
б) Вена
в) Парыж
г) Рым

**Адказы: в) Фларэнцыя, б) Маладзечна, б) Польшча, б) міністр фінансаў, б) Моцарт, б) «Ценям Касцюшкі», а) Лондан**

# Сам сабе Ярмошына (працяг)

працяг ад стар. 1

Паводле абнародаваных 16 кастрычніка афіцыйных вынікаў галасавання, Аляксандр Лукашэнка атрымаў 83,47%, супраць усіх прагаласавалі 6,32%, за Таццяну Караткевіч – 4,44%, Сяргея Гайдукевіча – 3,30%, Мікалая Улаховіча – 1,67%, сапсаванымі апынуліся 0,8% бюлетэняў.

Пераможца, якім стаў Дзяніс Лаеўскі, даў такі прагноз: Аляксандр Лукашэнка – 83,32%, Таццяна Караткевіч – 4,15%, супраць усіх – 6,52%, Сяргей Гайдукевіч – 3,54%, Мікалай Улаховіч –1,20%, несапраўдныя бюлетэні – 1,27%.

Між тым, прыз (смартфон) атрымае іншы паспяховы ўдзельнік «Палітычнага таталізатара-2015», які выканаў у адрозненне ад Дзяніса Лаеўскага ўсе ягоныя ўмовы – ад прадастаўлення дзейснага адрасу электроннай пошты да дзяльбы сваім прагнозам пасля яго складання ў адной з сацыяльных сетак. Гэта - Павел Берасневу. Ягоны другі вынік такі: Аляксандр Лукашэнка – 83,80%, Таццяна Караткевіч – 4,90%, супраць усіх – 6,20%, Сяргей Гайдукевіч – 2,40%, Мікалай Улаховіч –1,80%, несапраўдныя бюлетэні – 0,90%.









А вось сярэднестатыстычны прагноз удзельнікаў «Палітычнага таталізатара», арганізаванага Рухам «За Свабоду», істотна адрозніваецца ад дадзеных ЦВК. Свой прагноз на сайце 2015.рух.by далі амаль 650 чалавек. Сярэднія вынікі на падставе іхніх прагнозаў атрымаліся такія: Аляксандр Лукашэнка – 73,89%, Таццяна Караткевіч – 12,04%, супраць усіх – 5,7%, Сяргей Гайдукевіч – 4,25%, Мікалай Улаховіч – 2,54%, несапраўдныя бюлетэні – 2,58%.

«Выбарчая сістэма ў Беларусі зладжана гэтак, што вынікі галасавання загадзя пераднвызначаныя. Скажам, на выбарах у Палату прадстаўнікоў пасля рэгістрацыі кандыдатаў можна на 99% сказаць хто з іх будзе названы дэпутатам і што гэта адбудзецца ў першым туры, - гаворыць першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. – Што да прэзідэнцкіх выбараў, то яшчэ да іх правядзення было ясна каго Цэнтрвыбаркам абвесціць прэзідэнтам».

Па ягоных словах, «інтрыга палягала хіба ў тым, якога кандыдата, напрыклад, паставяць на другое месца і якія канкрэтна адсоткі галасоў будуць у кандыдатаў у выніковым пратаколе ЦВК».

«Палітычны таталізатар-2015» якраз і прапанаваў адгадаць выбарчую калькуляцыю ўладаў. Пераможца даў зайздросна вельмі блізкі да афіцыйных вынікаў прагноз», - распавёў Юрась Губарэвіч.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 29.10.2015 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@рух.by